www.nv-online.info

№ 87 (4236)

3 лістапада 2017 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
***Якуб КОЛАС***

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Ідзе падпіска на «Народную Волю» на снежань 2017-га і на першую палову 2018 года.*

# Хто «заказаў» паляванне на Уладзіміра Някляева?
# І хто не пускае Аляксандра Лукашэнку і Уладзіміра Макея ў Еўропу?

## Ад рэдакцыі

Не паспелі чытачы "Народнай Волі" прачытаць у мінулым нумары артыкул "Паляванне на Уладзіміра Някляева", як стала вядома: суддзя Ленінскага раёна г.Мінска Святлана Метлянок пакарала вядомага паэта і палітыка 10 суткамі арышту. За што? За словы "Калі ёсць воля бараніць свае правы, дык трэба выходзіць і бараніць", сказаныя У.Някляевым у адказ на пытанне вядучага тэлеканала "Белсат" напярэдадні так званага "Маршу абураных беларусаў 2.0". У акцыі ён не ўдзельнічаў, і ўсё ж міліцыя склала на яго пратакол за "заклік да правядзення масавага мерапрыемства з парушэннем яго арганізацыі і правядзення".

Заўважым: падставай для "пратакалістаў" стала нават не інтэрв'ю тэлеканалу "Белсат", а яго інтэрпрэтацыя на сайце "Хартыя'97". А гэта розныя рэчы.

Калі ў судзе Уладзіміру Някляеву прадаставілі слова, ён сказаў: "*Яны скінулі вам гэтую справу, як сена: маўляў, з'ядуць. Дзе тут мае словы пра тое, што я нібыта заклікаў? Я не адмаўляюся ад слоў "Калі ў вас ёсць воля бараніць свае правы, дык трэба выходзіць і бараніць". Гэта ўмоўны сказ, яго вывучаюць у шостым класе. Той міліцыянт, які склаў гэты дакумент, непісьменны. Адразу кажу, што спасылка на "Хартыю'97" да мяне не мае дачынення, і загаловак іншы, чым на "Белсаце". Гэта проста жаданне пакараць чалавека па нейкіх выдуманых словах і дзеяннях, якія ён не рабіў і не казаў*".

Вердыкт, вынесены суддзёй Святланай Метлянок, узарваў інфармацыйную прастору. Не можа не звярнуць увагу на яго і "Народная Воля". Рэдакцыя вырашыла падысці да сітуацыі з розных бакоў, паглядзець на судовае рашэнне праз прызму ўсяго грамадска-палітычнага жыцця краіны, яе дзяржаўных інтарэсаў. Мяркуем, слушная пазіцыя, выкладзеная вядомым нашым калумністам Аляксандрам Класкоўскім, працяг тэмы – на 2-й старонцы.



**СТАЛА ВЯДОМА...**

## Лукашэнка ў Абу-Дабі сустрэўся з Парашэнкам

Аляксандр Лукашэнка 2 лістапада сустрэўся ў Абу-Дабі (ААЭ) з прэзідэнтам Украіны Пятром Парашэнкам. "*У гандлёва-эканамічных адносінах мы вельмі актыўна супрацоўнічаем. Наш таваraабарот ужо, нягледзячы на рознага роду праблемы і перашкоды, склаў больш за 3 млрд долараў, напэўна, дзесьці 3,5 млрд долараў будзе на сённяшні дзень. Але ў нас ёсць вельмі добрая магчымасць пашырыць супрацоўніцтва за кошт узаемадзеяння рэгіёнаў*", – цытуе Лукашэнку прэс-служба прэзідэнта Беларусі.

Новы імпульс развіццю адносін паміж краінамі, упэўнены афіцыйны беларускі лідар, дасць першы форум рэгіёнаў Беларусі і Украіны, які рыхтуюцца правесці ў Гомелі.

"*Што тычыцца палітычнага ўзаемадзеяння, то ў нас увогуле праблем няма. Мы абсалютна прытрымліваемся таго курсу, па якім дамовіліся ісці*", – падкрэсліў Лукашэнка. Кіраўнік Беларусі заўважыў, што нават на вялікай адлегласці ад сваіх краін прэзідэнты знайшлі магчымасць сустрэцца і разгледзець праблематыку адносін. "*Сёння ў нас ёсць магчымасць абмеркаваць тыя пытанні, якія, магчыма, маюць патрэбу ў дадатковым імпульсе з нашага боку. Я хачу вас запэўніць, што мы заўсёды былі людзьмі адказнымі: калі мы абяцаем, мы гэта робім. Я хачу гэта вам гарантаваць і на будучыню*", – заявіў Лукашэнка.

Парашэнка адзначыў актыўную працу над рэалізацыяй раней дасягнутых дамоўленасцяў, пачынаючы ад пытанняў дэмаркацыі і заканчваючы гандлёва-эканамічным супрацоўніцтвам. "*Я гэтае пытанне трымаю на кантролі*", – падкрэсліў прэзідэнт Украіны. Ён выказаў задавальненне ў сувязі з тым, што бакі пашыраюць узаемадзеянне па розных напрамках, уключаючы эканоміку і сацыяльную сферу.

Лукашэнка наведвае Аб'яднаныя Арабскія Эміраты з рабочым візітам. Падчас паездкі запланаваныя перамовы беларускага кіраўніка з кіраўніцтвам краіны, а таксама шэраг сустрэч з прадстаўнікамі бізнес-колаў. Пётр Парашэнка знаходзіўся ў ААЭ з рабочым візітам 1–2 лістапада. Напярэдадні ён здзейсніў афіцыйны візіт у Саудаўскую Аравію.

**Марына НОСАВА.**
(БелаПАН.)



Фото BELTA/BY

**ТЭНДЭНЦЫЯ**

## Знешнегандлёвы абарот за дзевяць месяцаў 2017 года павялічыўся на 22,4 працэнта

Знешнегандлёвы абарот у студзені–верасні 2017 года склаў 45,1 млрд долараў ЗША, павялічыўшыся на 22,4% у параўнанні з аналагічным перыядам 2016 года, паведамляе прэс-служба Дзяржаўнага мытнага камітэта Беларусі.

Пры гэтым тавараабарот з краінамі Садружнасці Незалежных Дзяржаў склаў 61% агульнага тавараабароту Беларусі. Экспарт у краіны СНД павялічыўся на 23,1% да 12,8 млрд долараў, імпарт – на 23,7% да 14,7 млрд долараў.

Тавараабарот з краінамі Еўрапейскага Саюза ўзрос на 22,5%. Экспарт вырас да 5,5 млрд долараў, імпарт – да 4,8 мільярда.

Асноўнымі партнёрамі Беларусі ў знешнім гандлі з`яўляюцца Расія, Украіна, Кітай, Германія, Вялікабрытанія, Польшча, Нідэрланды, Літва, Турцыя, Італія, Казахстан.

Асноўныя экспартаваныя тавары – нафтапрадукты, калійныя ўгнаенні, малочныя прадукты, грузавыя аўтамабілі, трактары. Вядучыя пазіцыі ў імпарце з іншых дзяржаў займаюць сырая нафта, газы нафтавыя і нафтапрадукты.

**Андрэй СЕРАДА.** (БелаПАН.)

**БРУСЕЛЬ–МІНСК**

## Андрэа ВІКТАРЫН: ЕС падтрымлівае Беларусь у перамоўным працэсе з МВФ

Еўрасаюз падтрымлівае Беларусь у перамоўным працэсе з Міжнародным валютным фондам аб выдзяленні новага крэдыту, заявіла кіраўнік прадстаўніцтва ЕС у Беларусі Андрэа Віктарын 2 лістапада на Кастрычніцкім эканамічным форуме (KEF) у Мінску.

"*Еўрапейскі Саюз заўсёды спрабаваў падтрымліваць Беларусь і дапамагаць у перагаворным працэсе з Міжнародным валютным фондам. І павінна падкрэсліць нашу перакананасць у тым, што пагадненне з МВФ, калі яно будзе дасягнута, значна палепшыць сітуацыю ў беларускай эканоміцы, а таксама паслужыць сігналам для ўсяго свету, наколькі Беларусі вельмі важна сфарміраваць станоўчы імідж і пасылаць верныя сігналы міжнароднай супольнасці*", – сказала Віктарын.

(БелаПАН.)

**ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ**

## Не было б шчасця...

Пасля дыскваліфікацыі расійскага лыжніка **Аляксандра Лягкова** беларус Сяргей Далідовіч падняўся на 4-е месца ў пратаколе гонкі на 50 км з масавым стартам на зімовай Алімпіядзе-2014 у Сочы.

Дарэчы, дысцыплінарная камісія вывучае зараз кейсы іншых спартсменаў: **Аляксея Петухова**, **Яўгеніі Шапавалавай**, **Юліі Івановай** і **Максіма Вылягжаніна**. Калі апошняга таксама дыскваліфікуюць (а гэта вельмі верагодна), Сяргей Далідовіч амаль праз чатыры гады пасля старту прынясе Беларусі яшчэ адзін, бронзавы, медаль Алімпіяды ў Сочы.

**БЕЗ РУЖОВЫХ АКУЛЯРАЎ**



Аляксандр КЛАСКОЎСКІ,
спецыяльна для "Народнай Волі"

## Ці не зашмат на сябе бяруць сілавікі?

Апошні прысуд Уладзіміру Някляеву ў выглядзе дзесяці сутак арышту выглядае цынічным, амаральным нават па беларускіх мерках. Увогуле ўлады часта выкарыстоўваюць у дачыненні да апанентаў тактыку дробнага фолу – каб, не даводзячы іх да статусу палітвязняў, дапячы, атруціць жыццё, адбіць ахвоту да палітычнай актыўнасці метадычнымі адміністрацыйнымі пакараннямі. Але такога яшчэ не было: суд сталічнага Ленінскага раёна расцаніў як заклік да ўдзелу ў несанкцыянаванай акцыі… развагі паэта ў інтэрв'ю "Белсату". Хаця Някляеў на той акцыі і не быў, а перад відэакамерай казаў аб праве беларусаў абараняць свае інтарэсы, не называючы ні часу, ні месца канкрэтнага маршу.

Дык за што? Навошта? Можа, гэта прыклад "жэстачайшай лібералізацыі" па-беларуску, пра якую днямі абвясціў у парламенце міністр унутраных спраў Ігар Шуневіч?

Калі ж без іроніі, то недарэчнае, фантасмагарычнае пакаранне можна расцаніць, перш за ўсё, і як замах на свабоду выказвання. З такім поспехам можна засудзіць усю незалежную журналістыку, якая піша аб пратэстах. Не выключана, што асобныя разумнікі неўзабаве і за гэта возьмуцца.

Хто ж так шчыруе? Цяжка сабе ўявіць, што Аляксандр Лукашэнка з Эміратаў дае распараджэнне: спаймайце там мне гэнага паэта і – за краты на дзесяць сутак (ды яшчэ падсадзіце якога вашывага валацугу ў камеру). Такія фокусы на вачах у Еўропы (якая працягвае пільна маніторыць сітуацыю ў Беларусі) відавочна недарэчы і фінансава-эканамічнаму блоку ўрада. Вось на мінулым тыдні прэм'ер Андрэй Кабякоў на інвестыцыйным форуме ў Люксембургу ўсяляк завабліваў заходніх таўстасумаў, каб укладалі грошы ў Беларусь. Але ці багата знойдзецца дурняў прыходзіць з капіталамі ў краіну, дзе любога могуць ні за што ні пра што запіхнуць на нары? Нарэшце, усё новыя і новыя факты палітычнага пераследу псуюць высілкі замежнапалітычнага ведамства на чале з Уладзімірам Макеем.

Дарэчы, цяперашняя разрадка ў дачыненнях з Захадам – ужо другая. Першая спроба была ў 2008–2010 гадах, аднак тыя старанні пайшлі сабаку пад хвост пасля разгону Плошчы і канвеера жорсткіх судоў (трапіў тады пад раздачу і той самы Някляеў з шэрагам іншых кандыдатаў у прэзідэнты). Гэта быў зорны час для сілавікоў, яны аказаліся на кані, атрымалі зручную магчымасць давесці кіраўніцтву сваю патрэбнасць, неабходнасць жорсткіх унутраных сцэнарыяў (і шчодрага фінансавання адпаведных структур). Але краіна ў выніку капітальна прайграла, адносіны з Захадам былі адкінуты далёка назад. Хто падлічыць, колькі Беларусь страціла ад санкцый, колькі недаатрымала інвестыцый, перадавых тэхналогій? Звыш таго, за час варажнечы з Захадам узмацнілася залежнасць ад Масквы.

Дык хто зноў ставіць палкі ў колы замежнай палітыцы Беларусі? Найхутчэй, што ў выпадку з Някляевым, у іншых падобных сюжэтах (свежы прыклад – пераслед актывіста Алеся Меха ў Кобрыне) працуе прымітыўная логіка дзеячаў сілавога блока, якім прадпісана забяспечваць "парадак". І выглядае так, што ў межах задачы здушэння публічных пратэстаў Някляева вырашана проста дабіць як маральна, псіхалагічна, так і фізічна. Падкрэслю: і фізічна таксама. Бо пасля адной з мінулых адсідак ён скардзіўся, што ў ізалятары не атрымаў своечасова медыцынскай дапамогі, патрэбных лекаў. У дзень жа апошняга суда, 1 лістапада, Някляеў збіраўся ў бальніцу на абследаванне і пасля прысуду папрасіў жонку Вольгу, калі яго адразу павязуць на Акрэсціна, перадаць у ізалятар медыкаменты. Дзякуй Богу, пакуль рашэнне суда не ўступіла ў сілу і паэт на свабодзе.

Вядома, камера на Акрэсціна – далёка не шпітальная палата. І тое, што нейкія адэпты заціскання гаек фактычна заганяюць у труну немаладога Някляева, буйную яркую асобу з беларускай творчай эліты, – гэта проста нацыянальная ганьба.

Сілавікі відавочна хочуць паказаць, што па-ранейшаму яны ў доме гаспадары. Але на справе групоўка з рэпрэсіўным мысленнем аказвае мядзведжую паслугу і кіраўніцтву дзяржавы, у інтарэсах якога нібыта шчыруе. Дастаткова згадаць брутальны разгон Дня Волі мінулай вясной у Мінску, шытую белымі ніткамі "справу патрыётаў". Той зрыў у рэпрэсіі сур'ёзна абцяжарыў працэс нармалізацыі дачыненняў з Еўропай. Дыпламатам давялося са скуры вылузвацца, каб залагодзіць сітуацыю. Закулісна абяцалі, што зрываў болей не будзе. Цяпер наверсе, здаецца, маракуюць, як тую "справу патрыётаў" спусціць на тармазах без страты твару.

Між тым праваабаронцы, каментуючы прысуд Някляеву, заявілі, што гатовы прызнаваць палітвязнямі і тых, каго садзяць на кароткія тэрміны. Так што і ведамству Макея, і самому Лукашэнку, калі ён выправіцца неўзабаве ў Брусель на саміт "Усходняга партнёрства", могуць быць зададзены непрыемныя пытанні і пра казус Някляева, і пра іншыя рэпрэсіўныя сюжэты (справы "Белага лёгіёна", прафсаюза РЭП).

Вось так заходні вектар, жыццёва патрэбны для незалежнасці і развіцця Беларусі, зноў і зноў аказваецца пад ударам праз тое, што ў кагосьці пад фуражкай мысленне на ўзроўні унтэра Прышыбеева.

**ВЕРДИКТ**



Сергей НЕРОВНЫЙ

## Красная ловушка

*За семнадцатым годом сразу следует тридцать седьмой.*
*Аркадий ДАВИДОВИЧ*

100 лет прошло с момента взятия власти в России большевиками. Отдельные «идейные» товарищи 7 ноября понесут цветы к монументу вождя коммунистов В.Ленина, поклонятся, скажут пафосную речь, а вечерком в честь праздника побалуются «Бобровым», затянутся дорогой сигарой. В Беларуси такой подход приветствуется. В иных странах, в том числе России, в этот день будут демонстрировать фильмы, в которых «доброго дедушку» и его соратников покажут такими, какими их в советские времена не было принято показывать. 7 ноября в России – день скорби, как говорят, по «красным и белым», по всем погибшим. Это, пожалуй, верный подход.

Если верить К.Марксу, который и родил теорию красной утопии – коммунизма, Россия не являлась первым претендентом на революцию. Маркс и Энгельс ожидали революций в развитых индустриальных странах, где был многочисленный класс рабочих, например, в Германии и Великобритании.

Первая мировая война внесла коррективы в теорию Маркса. Оживился Ленин, волюнтарист и циник, вознамерившийся подтолкнуть историю в нужном направлении. В преимущественно крестьянской России.

Солдаты, уставшие от войны, и совсем обедневшие крестьяне в начале 1917 года стали бунтовать. В феврале царский режим пал, открыв дорогу демократическим преобразованиям. Сторонники Ленина вошли в Советы, получив немало власти. Однако Ленину нужна была полная власть. А Германии нужно было вывести Россию из войны. И Ленин становится секретным оружием Германии. Его переправляют из швейцарской ссылки в Петроград, снабжают деньгами…

Энергия, жажда власти, мастерство в интригах и напор Ленина, зажигательные речи руководителя Петросовета харизматика Троцкого, действия других обученных большевиков привели к вооруженному перевороту 7 ноября (25 октября по старому стилю). Это был именно переворот – так его долгое время называли сами победители. Потому что революция в классическом понимании – это когда идут многотысячные демонстрации, происходят стычки, режим шатается и падает. Пример – февральская революция, положившая начало демократизации в России. А октябрьский переворот – это когда «промедление смерти подобно», это когда всё произошло за одну ночь. Это потом коммунисты хватились и назвали вооруженный захват власти красиво – Великим Октябрем.

Вскоре большевики показали свою суть – разогнали Учредительное собрание («караул устал»). Не имея опыта управления страной, но вооруженный утопической теорией построения коммунизма, Ленин нащупывал «точки опоры». С легкостью жертвовал землями, жестоко расправлялся с «чуждыми классами», грезил мировой революцией. Бросил созданную армию на Варшаву, надеясь зажечь революционный пожар в Европе. Поляки армию Тухачевского разгромили.

Разруха в стране заставила Ленина «поступиться принципами», разрешить частную собственность и предпринимательство. Однако в политике царил диктат: были запрещены другие политические партии, соперники преследовались, конкурентные выборы не проводились. Красная армия переключилась на внутренние фронты, громя несогласных. Тысячи человек были убиты главной спецслужбой большевиков – ЧК.

Хорошо известно, что внутри правящей группировки, захватившей власть в России, шла борьба не на жизнь, а на смерть. Едва Ленин ослабел физически, его безжалостно стали оттеснять от власти. Чувства безысходности, ненужности, предательства овладевали больным вождем. Еще вчера всесильный и авторитетный он стремительно превращался в «разбитое корыто». Богиня Клио не пощадила заносчивого Ленина – он, по сути, не нашел себя ни в семейной жизни, ни в политической. Мечты о триумфе коммунизма, «живом творчестве масс» и «невиданном государстве с человеком нового типа» рухнули в одночасье. Он не умел разгребать «авгиевы конюшни» – строить, он умел разрушать.

Строили другие вожди. Сталин, Хрущев, Брежнев… Они строили красную утопию по-своему, в меру своего опыта, знаний, целесообразности. Сталин подчинил крестьянство, загнав его в колхозы и организовав голодомор, подчинил рабочих, отдав их под власть «красных директоров», подчинил чиновников с помощью «карающего меча» НКВД. Он заставил страну жить в страхе и сам жил в страхе. Как и Ленин, он мечтал о мировом коммунизме, готовил армию к броску на Ла-Манш, но заигрался с Гитлером и едва не лишился страны и власти. Его последние годы были ужасны – он впадал в прострацию и совершал ошибки, соперники из Политбюро ждали его смерти и готовы были приблизить ее. После смерти его развенчали на весь мир и выбросили из Мавзолея.

Новые вожди не только не построили коммунизм, но и уничтожили страну. Красная ловушка захлопнулась.

Народная Воля http://www.nv-online.info 3 ЛІСТАПАДА 2017 г.

ТОЧКА ЗРЕНИЯ



Александр ФЕДУТА

# «Самый гуманный суд в мире»

Вынесенная в заглавие цитата, возможно, не будет понятна нашим молодым читателям, но те, кто застал еще приснопамятный Советский Союз, хорошо помнят сцену из «Кавказской пленницы»: жулик по прозвищу Трус (Георгий Вицин) на заседании, где его и всю банду, созданную председателем райисполкома, судят за похищение отличницы, спортсменки, комсомолки, истошно вопит:

– Да здравствует советский суд – самый гуманный суд в мире!

Вопль подсудимого встречает хохот присутствующих – и тех, кто слушал его в зале суда, и тех, кто сидел в зрительном зале кинотеатра и дома перед телевизорами.

Принято было считать: смеются над неуместностью типично «первомайского» призыва, озвученного жуликом, преступление которого очевидно. На самом деле смеялись над характеристикой суда, не слишком ассоциировавшегося с гуманностью: после многих лет репрессий, когда несовершеннолетних детей сажали по пресловутому «закону о колосках», а десятилетки, отбытые «членами семей изменников родины», и вовсе никого не удивляли.

У нас, – в современной Беларуси, «самый гуманный суд в мире».

Вспомним…

Подсудимый просит возможности проконсультироваться с адвокатом. Судья считает это нецелесообразным и в такой возможности ему отказывает. И после этого со спокойной совестью выносит смертный приговор.

Глухонемого осуждают за то, что он выкрикивал во время акции протеста антиправительственные лозунги. «Факт» был «засвидетельствован» двумя сотрудниками правоохранительных органов. Глухонемого отправили «на сутки».

Кандидата в президенты избивают неизвестные в форме неустановленного образца – причем при полном попустительстве присутствующих работников милиции. Суд не прилагает ни малейших усилий для установления того, почему все-таки работники милиции бездействовали, а избитому кандидату дает срок два года – «условно», но дает.

Скажете, это дела минувших дней. С той поры, мол, много разного другого случилось. Но вот, пожалуйста, последние примеры.

Суд присуждает штраф кобринскому активисту Александру Меху. Официальная версия: за неподчинение законным требованиям власти. А было ли это неподчинение? И при каких обстоятельствах? Где нейтральные свидетели? Человек вышел на улицу после того, как обнаружил в квартире приятеля, также местного активиста, штучку, похожую на прослушку, а его неизвестные люди в масках – лицом в асфальт. Вначале суд оправдывает А.Меха, но омоновское начальство через областную инстанцию добивается пересмотра дела. И вчера невиновный становится виновным – плати штраф!

А вот самый свежий эпизод. Суд Ленинского района г.Минска отправляет немолодого (увы, бывает) поэта Владимира Некляева на десять суток за якобы имевший место призыв к незаконной акции. При этом рассматривать комментарий, данный Некляевым аккредитованному в Минске телеканалу «Белсат», суд отказывается, опираясь на «выжимку», сделанную (и сфальсифицированную, с моей точки зрения) неаккредитованным в Минске интернет-ресурсом «Хартия'97». То есть судили Некляева не за то, что он на самом деле говорил, а за то, что ему приписали.

А к кому тогда суд гуманен?

К коррупционерам, «погасившим ущерб государству».

К бизнесменам, чья деятельность осуществлялась вне рамок закона, однако «ущерб был погашен».

Во времена «Большого террора» был такой термин: «социально близкий элемент». То есть следователь, а затем прокурор и судья ставили себя на место подсудимого и находили смягчающие обстоятельства. Вот в нашем случае на место коррупционера и бизнесмена, нарушающего закон, наши суды себя легко ставят. А вот представить себе, что они протестуют против установки подслушивающего устройства или высказывают точку зрения, отличающуюся от официальной, – нет.

Понятно, такие как Мех, Некляев для них – социально не близкие. К ним гуманизм оказывается не вполне применимым.

Демократия по-белорусски.



Пасля суда. З жонкай.

АДКРЫТЫМ ТЭКСТАМ

Уладзімір НЯКЛЯЕЎ:

# «Мяне хочуць адправіць на той свет…»

*Некаторыя вострыя пытанні "Народная Воля" задала самому Уладзіміру Някляеву – гэтымі днямі ён яшчэ на волі.*

**– Уладзімір Пракопавіч, як думаеце, чаму вам далі не штраф – няхай нават і самы вялікі, не папярэджанне, а менавіта 10 сутак?**

– У мяне сёння ноччу зноў здарыўся гіпертанічны крыз. Як ні трымай нервы ў кулаку, але, калі бачыш, з якім цынізмам выносяцца такія прысуды, арганізм не вытрымлівае...

Чатыры экспертызы паважаных арганізацый – ПЭН-цэнтра, Беларускага саюза пісьменнікаў, Беларускай асацыяцыі журналістаў, адказ самых вядомых праваабарончых арганізацый! Усе выказаліся, што ў маіх словах не было ніякага закліку, але беларуская Феміда прыняла іншае рашэнне, абвяргаючы відавочнае.

Няма ніякіх прычын для таго, каб пасадзіць мяне на 10 сутак за тое, чаго я не рабіў і чаго не казаў.

**– Ці ёсць у вас адказ на пытанне, хто "заказаў" Някляева?**

– Я не буду называць канкрэтных імёнаў і прозвішчаў. Раскажу толькі такі выпадак, які адбыўся падчас суда.

Амаль на кожным маім судзе бывае прадстаўнік КДБ. І ў мяне складваецца ўражанне, што менавіта гэты супрацоўнік кіруе ўсім судовым працэсам, бо, як я заўважыў, суддзя рэагуе нават на ягоную міміку. Такі чалавек быў і на апошнім працэсе. І як толькі суддзя абвясціла вырак, ён адразу выйшаў з залы, але ўслед за ім пайшоў і адзін з маіх таварышаў, якому я параіў прыглядзецца да паводзін спецслужбіста. Прадстаўнік спецслужбы зрабіў некаму кароткі званок і прамовіў: *"Приговор озвучен"*.

Я лічу, што гэта не выпадковасць.

**– Чаму вас адразу з залы суда не павезлі адбываць прызначанае пакаранне?**

– Па законе я маю права абскардзіць рашэнне раённага суда. У дадзеным выпадку гэта, канешне, абсалютна бессэнсоўная справа, але магчымасць ёсць. Гэтым і тлумачыцца тое, што мяне адразу не забралі. Я маю дзесяць дзён на тое, каб падаць скаргу. Вось зараз якраз думаю, ці варта гэтым займацца і паліць нервы.

**– А вы казалі суддзі, што ў вас часта здараюцца гіпертанічныя крызы і кожны з іх можа быць, барані Божа, апошнім?**

– Яна ведае. Але гэта не мае ніякага значэння. На мінулым судзе я прадставіў дакумент, які сведчыў пра тое, што я насамрэч хворы і што ў гэты дзень і гэты час павінен быць у доктара, але суддзя не звярнула на яго ніякай увагі, проста прыхавала.

А што тычыцца здароўя, дык мне і сёння прапанавалі шпіталізацыю, але я адмовіўся, бо трэба ж вырашаць пытанні з гэтым судом.

**– Вас не ўпершыню фактычна ні за што кідаюць за краты, у ізаляцыю, у нечалавечыя ўмовы, дзе ўсяляк прыніжаюць, не даюць лекі і адбіраюць нават алоўвак. Складваецца ўражанне, што Някляева нехта проста хоча звесці з гэтага свету. Каму выгадна, каб вы, прабачце, склеілі ласты?**

– Так, калі скласці ўсё адно да аднаго, то разумееш, што ўсё невыпадкова. Прычым здзекуюцца наўмысна. У інструкцыі, якая ўтрымлівае правілы паводзін у ізаляцыі, чорным па белым напісана, на што мае права зняволены. Сярод іншага – права на гадзіннік, на паперу, на адваката, на юрыдычную дапамогу. А насамрэч нічога гэтага няма! І калі я прашу даць магчымасць мне пісаць, то чую ў адказ: *"А раптам вы возьмеце і выкалеце сабе глаз гэтай ручкай, а потым на нас зваліце!"* Вось і ўся размовы. І ім усё роўна, што са мной здарыцца – інсульт ці інфаркт. Яны адкрытым тэкстам пра гэта кажуць.

Я не аматар усякіх канспіралагічных сюжэтаў, але калі кожны раз цябе арыштоўваюць так, быццам хочуць забіць альбо быццам затрымліваюць буйнога злачынцу, – усё гэта робіцца, каб стварыць невыносную атмасферу, каб напружыць...

Калі ты ў ізаляцыі, а яны ствараюць атмасферу ціску на сям'ю – ты таксама перажываеш, што там і як.

Калі прывозяць у турму і не даюць лекаў – чакаюць, што з табой будзе.

Калі ў цябе гіпертанічны крыз, яны не выклікаюць "хуткую дапамогу".

І гэта тройчы паўтарылася ўжо! І зараз, відаць, гэтаксама будзе. Дык што гэта такое? Відавочна тэндэнцыя да таго, каб мяне звесці з белага свету. Бо гэта паўтараецца раз за разам.

**– Але ўсё роўна не разумею, каму выгадна, каб Някляеў аддаў Богу душу. Прабачце, канешне, за цынізм, але, як ні круці, мінусаў у гэтым больш, чым плюсаў.**

– Я даўно жыву на свеце і добра ведаю псіхалогію людзей. Магчыма, ва ўладзе ці сілавых структурах, спецслужбах ёсць нехта, хто хоча зрабіць хуткую кар'еру. І нічым не грэбуе.

Канешне, калі задавацца пытаннем, ці выгадна гэта ўладам, то адказ не такі і просты...

**– Улады пакуль не адказалі за гучныя знікненні Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадскага. Многія памятаюць і пра дзіўную смерць Генадзя Карпенкі, які рэдка скардзіўся на здароўе...**

– Магчыма, калі мяне давядуць да краю, хтосьці і разззлуецца. Альбо зробіць від, што раззлаваўся. Але ўнутрана, можа, і выдыхне...

**– Уладзімір Пракопавіч, а вас не крыўдзіць, што вашы калегі-палітыкі так слаба рэагуюць на тое, што адбылося? У судзе не было бачна кіраўнікоў усіх палітычных партый, ніхто не ініцыяваў пікеты каля суда, не чуваць галасоў і выразна акрэсленай пазіцыі вашых былых калег з кампаніі "Тавары праўду!". Хаця па вялікім рахунку гаворка ідзе пра жыццё чалавека! Дэфіцыт салідарнасці? Ці ўсім напляваць?**

– Я не дзіця, каб крыўдаваць, усё разумею. А чаму так адбываецца – лепей у іх саміх спытаць...

Ведаю, што ў той жа дзень, калі мяне судзілі, мае былыя калегі з "Тавары праўду!" сустракаліся з прадстаўніком Міністэрства абароны – размаўлялі пра дзедаўшчыну.

Думаю, усе разумеюць, што быў «заказ» на Някляева. І калі будзеш катэгарычна пратэставаць, значыць, ты пратэстуеш супраць таго, хто аддаў загад паляваць на Някляева. Гэта небяспечна.

На Еўранэсе я вельмі рэзка выступаў, гаварыў пра Статкевіча, пра рэпрэсіі – у нас жа апошнім часам ні дня без суда не абыходзіцца! Але маё выступленне мікшыравалася іншымі выступоўцамі – маўляў, прагрэс пераважае. Па сутнасці, сёння толькі Беларускі нацыянальны кангрэс займаецца акцыямі пратэсту і барацьбой з несправядлівасцю. Астатняя апазіцыя перайшла ў офісны рэжым, і найперш мая былая кампанія, якая імітуе нейкі дыялог з уладай. У іх стратэгічная мэта – неяк уладкавацца ў гэтую ўладу, таму яны не могуць выступаць супраць яе, абараняючы Уладзіміра Някляева. Гэта не ў іх інтарэсах.

Але я не здаюся. Улада мяне ціснe, а мая задача – выстаяць.

**– І выжыць!**

– Так, калі Бог дасць выжыць, то будзем стаяць...

**Марына КОКТЫШ.**

ЭКСПЕРТЫЗА

Антон ГАШЫНСКІ, адвакат:

## «Парушэнне закона відавочнае…»

Выступаючы ў судзе, прафесійны адвакат Антон Гашынскі звярнуў увагу на тое, што супрацоўнікі міліцыі недакладна ўжылі пры складанні пратакола словы Уладзіміра Някляева і недакладна пазначылі крыніцу, што ёсць парушэнне закона.

*"Паводле пратакола, Някляеў выказваўся сайту "Хартыя'97", але гэта недакладна. Ён даваў інтэрв'ю "Белсату". Да таго ж з кантэксту вырваны адзін абзац, а ўсё астатняе – гэта меркаванне журналіста",* – сказаў адвакат.

Абаронца лічыць, што як мінімум справу Някляева трэба было адправіць на дапрацоўку, а лепей – зусім яе спыніць з-за адсутнасці складу правапарушэння.

ВОСТРЫ ВУГАЛ

## Прынцыпы перамагаюць не заўсёды

Асуджэнне Уладзіміра Някляева на 10-сутачнае зняволенне стала яшчэ адным аргументам для тых, хто сцвярджае, што беларускія ўлады, прынамсі тая іх частка, якую ўмоўна адносяць да "сілавікоў", спрабуе спыніць і без таго не надта інтэнсіўны працэс нармалізацыі адносін нашай краіны з Захадам. Выказваюцца таксама думкі, што робіцца гэта па заданні іх расійскіх калег.

Сапраўды, вырак суда выглядае абсалютна недарэчным, хоць і дастаткова тыповым для мясцовага судаводства, і тым самым падштурхоўвае да згаданага пункту гледжання.

Аднак пры гэтым няяўна маецца на ўвазе, што такія дзеянні ажыццяўляюцца насуперак імкненням вышэйшага кіраўніцтва. А вось гэта выклікае вялікія сумненні, бо тыя ж "сілавікі" цудоўна ведаюць, што, калі дасягненне пастаўленай імі мэты прывядзе да больш-менш сур'ёзных негатыўных наступстваў, абавязкова паляцяць галовы.

У той жа час няма падстаў лічыць, што існуе адпаведны загад звыш, паколькі для таго, каб сапсаваць стасункі з цывілізаваным светам, у рэжыму абсалютна няма неабходнасці ў такога кшталту хітрыках.

Таму, магчыма, тут спрацаваў звычайны руцінны падыход дробнага выканаўцы, якому няма справы да высокай палітыкі, затое ён ведае агульнае стаўленне начальства да таго ж Някляева.

Разам з тым нельга выключаць, што можа мець месца своеасаблівае выпрабаванне сучаснага заходняга стаўлення да Беларусі: наколькі далёка можна зайсці без таго, каб стасункі не вярнуліся да яшчэ адносна нядаўняга стану з санкцыямі і іншымі непрыемнасцямі.

Калі гэта насамрэч так, дык трэба прызнаць, што ў дадзеным выпадку разлічваць на хаця б адносна жорсткую рэакцыю аб'яднанай Еўропы і Злучаных Штатаў наўрад ці выпадае. У сённяшніх варунках з-за дзесяцісутачнага пакарання каго б там ні было, няхай сабе і абсалютна несправядлівага, на радыкальныя меры яны не пойдуць. Хутчэй за ўсё, справа абмяжуецца асуджальнымі заявамі шэрагу замежных амбасад і некалькіх асобных палітыкаў.

Па-першае, у самога Захаду ўласных праблем – вышэй за дах: тэрарызм, мігранты, "брэкзіт", Украіна, унутраны сепаратызм, расійскае ўмяшальніцтва ў выбарчыя кампаніі, "правы марш" у дзяржавах Еўрасаюза і г.д.

Па-другое, застаецца надзея ўтрымаць афіцыйны Мінск ад занадта цеснага хаўрусу з Масквой. Таму псаваць з ім адносіны, тым больш з такой нагоды, немэтазгодна.

Ды і ўвогуле практыка паказвае, што ў дэмакратычным свеце сутыкненне інтарэсаў і прынцыпаў далёка не заўсёды прыносіць перамогу апошнім…

**Андрэй ФЁДАРАЎ.**

МЕРКАВАННЕ

## Някляеў стаў першай ахвярай «жэстачайшай лібералізацыі»

Лічу вынесеную судом пастанову ў дачыненні да спадара Някляева незаконнай і падлягаючай адмене з наступных прычын.

Артыкул 8 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб масавых мерапрыемствах" ад 30 снежня 1997 года №114-З (са зменамі і дапаўненнямі) сапраўды забараняе арганізатарам масавага мерапрыемства, а таксама іншым асобам да атрымання дазволу на правядзенне аб'яўляць у СМІ, глабальнай сетцы Інтэрнэт ці іншых інфармацыйных сетках дату, месца і час яго правядзення, вырабляць і распаўсюджваць з гэтай мэтай улёткі, плакаты і іншыя матэрыялы.

У той жа час часткі 1 і 2 артыкула 23.34 КаАП Рэспублікі Беларусь у якасці суб'ектаў дадзенага складу правапарушэння (у тым ліку ў частцы публічных заклікаў да арганізацыі ці правядзення масавых мерапрыемстваў з парушэннем устаноўленага парадку іх арганізацыі і правядзення) утрымлівае толькі ўдзельнікаў і арганізатараў такіх мерапрыемстваў. Такім чынам, нават калі дапусціць, што спадар Някляеў у інтэрв'ю "Белсату" заклікаў да ўдзелу ў планаванай акцыі "Марш абураных беларусаў 2.0" (хаця і гэтага не бачыцца ў ягоных словах), ён не мог быць прыцягнуты да адміністрацыйнай адказнасці па арт.23.34 КаАП з прычыны таго, што не з'яўляўся ні ўдзельнікам, ні арганізатарам дадзенага мерапрыемства. Адзіным арганізатарам планаванага шэсця, паводле пісьмовага адказу Мінгарвыканкама на адпаведны запыт, быў Мікола Статкевіч.

Такім чынам, у дзеяннях спадара Някляева няма складу правапарушэння, прадугледжанага артыкулам 23.34 КаАП. Я вельмі спадзяюся, што дадзеная пастанова ў выніку абскарджвання ў Мінскі гарадскі суд будзе адменена, а вытворчасць па справе – спынена.

Аднак спадар Някляеў, можна сказаць, стаў першай ахвярай анансаванай міністрам унутраных спраў Шуневічам "жэстачайшай лібералізацыі". Справа ў тым, што Палатай прадстаўнікоў у першым чытанні ўжо быў прыняты Закон Рэспублікі Беларусь "Аб унясенні дапаўненняў і змен у некаторыя законы Рэспублікі Беларусь па пытаннях правядзення масавых мерапрыемстваў". Паводле артыкула 2 дадзенага Закона, уносяцца змены ў частку 1 артыкула 23.34 КаАП, дзе забарона на публічныя заклікі да ўдзелу ў масавых мерапрыемствах з парушэннем парадку іх арганізацыі і правядзення будзе распаўсюджвацца не толькі на ўдзельнікаў такіх мерапрыемстваў, але і на іншых асоб. Такім чынам, частка 1 артыкула 23.34 КаАП будзе прыведзена ў адпаведнасць з артыкулам 8 Закона "Аб масавых мерапрыемствах".

Што гэта будзе азначаць на практыцы?

Напрыклад, "расшарванне" ў сацыяльных сетках кім-небудзь (не арганізатарам і не ўдзельнікам мерапрыемства) пастоў з заклікамі да ўдзелу ў несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве будзе ўтвараць склад правапарушэння паводле часткі 1 артыкула 23.34 КаАП. Таксама інтэрв'ю з такімі заклікамі, якое гэтыя асобы даюць сродкам масавай інфармацыі, будзе пагражаць ім адміністрацыйным арыштам да 15 сутак.

Выпадак са спадаром Някляевым яскрава дэманструе будучыя прававыя падыходы ўлад. У цэлым жа змены ў Закон "Аб масавых мерапрыемствах", на нашу думку, карэнным чынам не мяняюць сітуацыю з рэалізацыяй права на мірныя сходы, гарантаванага нам Канстытуцыяй краіны. Магчымасць рэалізацыі гэтага права на практыцы, як і раней, застаецца крайне абмежаванай, а сам Закон, як і раней, не адпавядае міжнародным стандартам у галіне свабоды мірных сходаў і выказвання свайго меркавання.

**Валянцін СТЭФАНОВІЧ, юрыст, праваабаронца.**

МЕДКОНСУЛЬТАЦИЯ



Людмила ГУЛЕВИЧ, врач-терапевт:

## «Частые подъемы давления из-за перерыва в лечении могут привести к инсульту»

*Чем грозит гипертонику отказ от лекарственных средств? Этот вопрос мы адресовали врачу-терапевту, доктору с 35-летним стажем* ***Людмиле Гулевич****.*

– Для меня как для врача вообще невозможна такая постановка вопроса. Как это – человек, страдающий повышенным давлением, не принимает лекарства?! Это невозможно! – *комментирует Людмила Андреевна.* – Гипертония – это болезнь, которая требует постоянного приема подобранных врачом препаратов. Перерыв в день или два может закончиться гипертоническим кризом. Гипертония – не та болезнь, которую можно лечить курсом, как, например, воспаление легких или бронхит.

Кроме того, пациентам с артериальной гипертензией нужно постоянно находиться под наблюдением врача, который при необходимости будет вовремя корректировать лечение. И сегодня, кстати, очень важный момент – убедить пациента в необходимости постоянного приема лекарства, а также постоянного контроля над показаниями АД. Потому что, повторюсь еще раз, нерегулярный прием таблеток от давления может закончиться гипертоническим кризом. А это уже чревато развитием опасных для жизни состояний, таких как инсульт. Причем если на первый раз криз не закончился инсультом, то все равно частые подъемы давления из-за перерыва в лечении могут к нему привести.

К тому же сама клиническая картина гипертонического криза «выбивает» человека из нормального состояния. Его мучают сильные головные боли, тошнота.

При гипертоническом кризе пациент требует экстренной медицинской помощи, и, как правило, несколько дней после криза он должен находиться если не в стационаре, то на больничном. Пациенту нужен щадящий режим.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**



Народная Воля http://www.nv-online.info 3 ЛІСТАПАДА 2017 г.

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Ці вернуць Юрыя Авяр'янава на радзіму?

**Юрый Авяр'янаў** – адзін з першых у Беларусі долараў мільянераў. Адносна не так даўно, калі ў яго бізнес-гаспадарцы пачаліся праблемы, збег за мяжу, адкуль на радзіму, відаць, вяртацца пакуль не збіраецца.

Дарэчы, на пачатку 2000-х на Авяр'янава таксама была заведзена крымінальная справа, і на час следства бізнесмен таксама з'ехаў у Германію, дзе каля двух год і знаходзіўся. Калі хмары над яго галавой разышліся, алігарх спакойна вярнуўся дадому. А за той час, што ён знаходзіўся за мяжой, атрымаў від на жыхарства ў Германіі, куды і падаўся ў чарговы раз па старой сцяжынцы.

Каля года таму бізнесмен спрабаваў праз сваю жонку, якая часам прыязджае ў беларускую сталіцу, прадаць свой дом пад Мінскам, які нагадвае самы сапраўдны палац. Паводле чутак, Авяр'янаў хацеў атрымаць за яго аж 2 мільёны долараў!

*"Дом ужо не прадаецца",* – паведаміў мне мужчына, які апошнім часам даглядаў за нерухомасцю.

– Наколькі мне вядома, гэтая маёмасць знаходзіцца пад арыштам, – распавёў мне чалавек, які добра ведае алігарха. – Ідзе следства, ёсць крымінальная справа, а Авяр'янаў, напэўна, думае перачакаць непрыемную гісторыю за мяжой. Зрэшты, я валодаю інфармацыяй, што беларускія праваахоўныя органы падаюць запыт на экстрадыцыю бізнесмена.

**– Але ж у яго ёсць від на жыхарства ў Германіі…**

– Немцы – законапаслухмяныя людзі, яны супрацоўнічаюць з Інтэрполам. Таму, калі бачаць у справе склад злачынства, адпраўляюць такіх людзей на радзіму. Але пакуль Юрый Авяр'янаў жыве ў Берліне, быццам бы купіў там кватэру.

**Віктар ШПАК.**





ДА ВЕДАМА!

## Як вырастуць пенсіі з 1 лістапада

Як вядома, з 1 лістапада ў Беларусі нязначна, на 24 капейкі, павялічыцца бюджэт пражытачнага мінімуму – з 197,57 рубля да 197,81. Ад гэтага паказчыка ў нашай краіне залежыць памер мінімальных працоўных і сацыяльных пенсій, а таксама памер некаторых надбавак, напрыклад, пенсіянерам, якія дасягнулі 75 гадоў і вышэй. Гэтыя пенсіі і надбаўкі таксама з 1 лістапада стануць крыху больш.

| Від пенсіі або надбаўкі | Будзе з 1 лістапада 2017 г. (у рублях) | Было раней (у рублях) |
|---|---|---|
| Мінімальная пенсія па ўзросце з улікам даплаты ў памеры 20% ад сярэдняй зарплаты | 181,56 | 174,61 |
| Сацыяльная пенсія інвалідам 1-й групы, у тым ліку інвалідам з дзяцінства | 217,59 | 217,33 |
| інвалідам з дзяцінства 2-й групы | 187,92 | 187,69 |
| інвалідам 2-й групы (акрамя інвалідаў з дзяцінства), дзецям у выпадку страты карміцеля | 168,14 | 167,93 |
| інвалідам 3-й групы | 148,36 | 148,18 |
| асобам, якія дасягнулі ўзросту: мужчыны – 65 гадоў, жанчыны – 60 | 98,91 | 98,79 |
| дзецям-інвалідам да 18 гадоў пры ступені страты здароўя: | | |
| першай | 158,25 | 158,06 |
| другой | 168,14 | 167,93 |
| трэцяй | 187,92 | 187,69 |
| чацвёртай | 217,59 | 217,33 |
| Даплаты да пенсій непрацуючым пенсіянерам, якія дасягнулі: | | |
| 75 гадоў | 37,09 | 37,04 |
| 80 гадоў | 49,45 | 49,39 |

Што тычыцца звычайных працоўных пенсій па ўзросце, то, як вядома, і яны з 1 лістапада павысяцца – на 5%. Сярэдняя пенсія ў намінальным выражэнні, як плануецца, вырасце да 315,74 рубля. Цяпер сярэдняя пенсія па ўзросце складае 308,16 рубля, то бок павышэнне складзе ўсяго толькі 7 рублёў 58 капеек.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ПОДРОБНОСТИ

## МВД: Невмержицкий проходит по так называемому делу аграрников, вместе с ним задержано более десяти руководящих сотрудников

Как уже сообщала «Народная Воля», в апреле этого года был задержан руководитель крупного агропромышленного комплекса страны – республиканского дочернего унитарного предприятия по племенному делу «ЖодиноАгроПлемЭлита» **Николай Невмержицкий**.

На предприятии нам рассказывали, что «*задержали Николая Владимировича прямо в машине, когда он приехал на работу*», никаких подробностей правоохранители работникам не сообщали. Позже о факте задержания Невмержицкого было направлено официальное сообщение в Научно-практический центр Национальной академии наук Беларуси по животноводству («ЖодиноАгроПлемЭлита» входит в его структуру), и Невмержицкий был временно отстранен от занимаемой должности. К слову, и сегодня на сайте «ЖодиноАгроПлемЭлита» Николай Невмержицкий значится как директор, хотя с апреля на рабочем месте не появлялся.

Кто задерживал крупного чиновника? Где он находится сейчас? По какой статье в отношении него возбуждено уголовное дело?

Как удалось выяснить, Николай Невмержицкий был задержан сотрудниками главного управления по борьбе с экономическими преступлениями криминальной милиции МВД. Задержали Невмержицкого вместе с другими руководителями ряда госпредприятий аграрного сектора. Тогда пресс-служба МВД сообщала, что раскрыта коррупционная схема, в которой замешаны должностные лица крупнейшего в стране коммерческого производителя ветеринарных и кормовых добавок – холдинга «АФМ», а также должностные лица почти десяти государственных предприятий.

Коррупционная схема была следующей: «АФМ» поставлял свою продукцию на данные предприятия по завышенным ценам (причем ценники завышали в 3–5 раз), а чтобы сделки заключались на таких условиях, руководители получали денежные вознаграждения. Благодарили коммерсанты руководителей и за обеспечение своевременной оплаты поставляемой продукции.

Преступная схема, сообщала пресс-служба МВД, работала как минимум 2 года. «*Только за апрель текущего года зафиксированная сумма взяток на всех участников преступной группы составила не менее 6,5 тысячи долларов США,* – сообщалось в сводке. – *Окончательная сумма взяток будет установлена в ходе следствия. По оперативной информации сотрудников службы ОБЭП, сумма взяток составляла 5–8% от товарооборота с предприятиями агропромышленного комплекса, взятки формировали путем обналичивания денежных средств компании путем вывода на подконтрольные субъекты хозяйствования на территории иностранных государств, и поэтому они могут составлять в общей сумме более 1 млн долларов США*».

В мае 2017 года Следственным комитетом было возбуждено 15 уголовных дел, которые соединили в одном производстве. За дачу взяток дело возбудили в отношении должностных лиц «АФМ», и за получение взяток – в отношении должностных лиц ряда государственных предприятий агропромышленного комплекса. Среди этих должностных лиц и был руководитель ОАО «ЖодиноАгроПлемЭлита» Николай Невмержицкий. К слову, под уголовное преследование попали также руководители КУП «Гродномясомолпром», ОАО «Слонимский мясокомбинат», ОАО «Вилейский комбикормовый завод», КУП «Минская овощная фабрика», ОАО «Смолевичский райагросервис», Борисовского комбината хлебопродуктов. 10 человек, в том числе и Николай Невмержицкий, были задержаны.

Сегодня в МДВ не исключают, что за полгода, пока идет следствие, в этом деле могли открыться новые обстоятельства, появиться новые эпизоды, а значит, могли быть возбуждены новые уголовные дела.

– *Что касается уголовного дела руководителя ОАО «ЖодиноАгроПлемЭлита» Николая Невмержицкого, то в настоящее время расследование в отношении этого лица продолжается,* – сообщила официальный представитель СК Юлия Гончарова. – *Его действия квалифицированы по ч.1 и ч.2 ст.430 – получение взятки, применена мера пресечения в виде заключения под стражу. В отношении него проводятся процессуальные действия. На данный момент эта информация исчерпывающая.*

Что касается сроков передачи дела Невмержицкого и остальных фигурантов в суд, представитель СК заметила: «*Прогнозы, как говорят следователи, самое неблагодарное дело*».

К слову, санкции, предусмотренные статьей 430, достаточно жесткие. Частью второй данной статьи определено наказание за получение взятки «группой лиц по предварительному сговору либо в крупном размере», и если вина обвиняемого будет доказана, то ему грозит лишение свободы на срок от трех до десяти лет с конфискацией имущества и с лишением права занимать определенные должности или заниматься определенной деятельностью.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ІНІЦЫЯТЫВА

## ТБМ прапануе з наступнага верасня адкрыць беларускамоўныя групы ва ўсіх ВНУ

Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны" лічыць неабходным з верасня 2018 года адкрыць беларускамоўныя групы ва ўсіх ВНУ краіны і заснаваць шэраг дзяржаўных і прыватных гуманітарных універсітэтаў з беларускай мовай навучання. Такую заяву прынялі дэлегаты XIII з'езда ТБМ.

На думку членаў таварыства, у гэтых новых універсітэтах варта было б надаць асаблівую ўвагу выкладанню па-беларуску замежных моў. "*Такія ВНУ стануць кузняй беларускіх дыпламатаў, дзяржаўных чыноўнікаў, выкладчыкаў і навукоўцаў – сапраўдных патрыётаў нашай краіны, для якіх беларуская мова будзе мовай штодзённага карыстання на працы, у побыце і асабліва ў сям'і*", – падкрэсліваецца ў дакуменце.

Як адзначана ў заяве, Беларуская Народная Рэспубліка намагалася ствараць цалкам беларускамоўны ўніверсітэт ў 1918 годзе, але ён быў створаны ўжо пры БССР, у 1921-м, у Мінску, а пасля – у іншых гарадах. Аднак у 1930-я гады "*сталіністы надоўга выкаранілі беларускую мову з ВНУ*".

"*Пасля студзеня 1990-га, калі ў БССР беларуская мова была абвешчана дзяржаўнай, нашы ВНУ зноў пачалі ўводзіць выкладанне на беларускай мове,* – нагадалі аўтары дакумента. – *Але рэферэндум 1995 года гэты працэс надоўга спыніў. Зараз шмат у якіх ВНУ па-беларуску выкладаецца толькі адзін прадмет – «Беларуская мова. Прафесійная лексіка» альбо «Беларуская мова. Афіцыйна-справавы стыль». Курс вядзецца на працягу 36 гадзін, форма кантролю – залік*».

Дэлегаты XIII з'езда ТБМ лічаць, што трэба «*раз і назаўсёды скончыць з гэтай практыкай татальнай русіфікацыі*». Яны ўпэўненыя, што вышэйшая адукацыя па-беларуску з'яўляецца асновай незалежнасці краіны.

(БелаПАН.)

ПАЗІЦЫЯ

## Ці з'яўляецца 7 лістапада днём свята для беларускага народа?

Сёлета спаўняецца 100 гадоў Кастрычніцкай рэвалюцыі, якую іншым разам называюць пераваротам. З усіх постсавецкіх краін толькі ў нас 7 лістапада на афіцыйным узроўні лічыцца святам, прысвечаным менавіта гэтай непрадказальнай сваімі наступствамі гістарычнай падзеі.

Чаго толькі не давялося вытрываць народам падчас рэвалюцыі і грамадзянскай вайны! Колькі пралілося крыві бязвінных ахвяр! Голад, паспешная, непрадуманая індустрыялізацыя, калектывізацыя… У 1930-я гады была запушчана бязлітасная машына нечуваных па сваёй жорсткасці і масавасці сталінскіх рэпрэсій, якая змалола жыцці мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей.

Мала чым, акрамя стварэння сучасных відаў зброі і выхаду ў космас, мог пахваліцца СССР і ў пасляваенныя гады, хаця і заяўляў, што "будуе сацыялізм з чалавечым тварам". Калі б усё было так добра, не наспела б у сярэдзіне 1980-х гадоў патрэба распачаць перабудову сацыялістычнага грамадства, якая закончылася поўным разбурэннем савецкай імперыі. Вось таму і вырашылі ўсе дзяржавы, створаныя на постсавецкай прасторы, акрамя Рэспублікі Беларусь, паставіць крыж на хлуслівых ідэалах Кастрычніка і адмовіліся адзначаць 7 лістапада як свята. Чаму ж Беларусь засталася белай варонай? Мо 7 лістапада 1917 года прынесла беларусам у дзясяткі разоў больш шчасця, чым астатнім народам? Каб даць адказ на гэтае пытанне, трэба ўважліва ўгледзецца ў досыць складаныя, супярэчлівыя падзеі таго часу.

***

У лжэтэорыі аб тым, што беларускай нацыі не існуе, хапала прыхільнікаў сярод ідэолагаў і актыўных удзельнікаў Кастрычніцкай рэвалюцыі. Такога шавіністычнага погляду на беларускае пытанне прытрымліваліся і тыя, хто прыйшоў у Расіі да ўлады ў выніку Лютаўскай рэвалюцыі 1917 года. Часовы ўрад скасаваў назву Паўночна-Заходні край (асноўная частка яго складалася з беларускіх земляў) і замяніў яе найменнем Заходняя вобласць. У яе склад уваходзілі не занятыя кайзераўскімі войскамі Віленская, Віцебская, Магілёўская і Мінская губерні з цэнтрам у Мінску. (Смаленскую губерню, дзе больш за палову насельніцтва тады складалі беларусы, не пажадалі ўключыць у гэтую адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку.)

Заходняя вобласць існавала і пэўны час пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі, але на трэцім з'ездзе Саветаў гэтай тэрыторыі (праходзіў 11–12 верасня 1918 г.) была перайменавана ў Заходнюю Камуну. Палічылі, што новая назва больш адпавядае камуністычным ідэалам. І гэтая адміністрацыйна-тэрытарыяльная адзінка складалася ўжо з пяці губерняў – дадалі Смаленскую. Цэнтрам Захкамуны стаў Смаленск.

У афіцыйных структурах Заходняй Камуны тэрмінамі "Беларусь", "беларус", "беларускі", не карысталіся, бо лічылі, што такога народа не існуе і што на тэрыторыі Захкамуны жывуць галоўным чынам рускія.

Але тэрміны – вытворныя ад кораня "беларус-" шырока ўжываліся яшчэ да рэвалюцыі на старонках грамадскай і літаратурнай беларускамоўнай газеты "Дзянніца" (выдавалася з 1 лістапада да 31 снежня 1916 г.). Рэдагаваў яе на той час ужо добра вядомы не толькі ў Беларусі, але і ў Расіі Зміцер Жылуновіч – той самы пісьменнік, паэт, перакладчык, гісторык, публіцыст, грамадскі і дзяржаўны дзеяч Цішка Гартны. І выдавалася газета не дзе-небудзь у мядзведжым кутку Расійскай імперыі, а ў самім Петраградзе. Выйшла сем нумароў, і ў кожным узнімаліся лёсавызначальныя праблемы беларускага жыцця.

Пазней, ужо за савецкім часам, пачала выходзіць (таксама ў Петраградзе) беларускамоўная газета пад такой жа назвай – "Дзянніца" (выдавалася з 1 сакавіка 1918 г.). Яна з'яўлялася органам Беларускага Нацыянальнага Камісарыята (аддзела Наркамнаца Расійскай Федэрацыі) і таму шмат увагі надавала асвятленню нацыянальнага пытання, чаго не маглі не ведаць кіраўнікі Заходняй вобласці і Заходняй Камуны. Ведалі, толькі не жадалі прызнаць, што беларусы – гэта не рускія, не палякі і не ўкраінцы, а самабытны народ з уласнай гісторыяй, культурай, мовай, адметным ладам жыцця. У кіраўніцтве названых адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак было вельмі мала этнічных беларусаў, а тыя, што былі, займалі далёка не самыя высокія і адказныя пасады. Ні старшыня Абласнога выканаўчага камітэта рабочых, салдацкіх і сялянскіх дэпутатаў Заходняй вобласці і фронту армянін Аляксандр Мяснікоў (са студзеня 1918 г.), ні сакратар гэтага ж камітэта ўраджэнец Кутаісі Іван Алібегаў (Аганез Алібегянц), ні сакратар Паўночна-Заходняга абласнога камітэта РКП(б) латыш Вільгельм Кнорын не глядзелі на беларусаў як на самабытны народ, не ведалі асаблівасцяў этнакультурнага жыцця мясцовага насельніцтва, у іх не было ніякай павагі да гісторыі, культуры, мовы, побыту беларускага люду. А пра тое, каб ён стаў законным носьбітам улады ва ўласнай беларускай дзяржаве на сваёй гістарычнай, бацькоўскай зямлі, не было і гаворкі. Мяснікоў выступаў супраць таго, каб Беларусь стала самастойнай рэспублікай, нават тады, калі ў верхніх эшалонах бальшавіцкай партыі мелася на тое згода. Дык ці заслужана адна з плошчаў беларускай сталіцы носіць яго імя?!

Бальшавікі, якіх пасылалі ў наш край адусюль, з зайздроснай энергіяй распаўсюджвалі свае антыбеларускія погляды на старонках газеты "Звезда", якая пачала выходзіць у Мінску з 9 жніўня 1917 года (канечне ж, на рускай мове) і з'яўлялася органам Мінскага камітэта Расійскай сацыял-дэмакратычнай рабочай партыі (бальшавікоў). Сярод яе заснавальнікаў і першых рэдактараў і сакратароў не было ніводнага беларуса. Самым зацятым праціўнікам беларушчыны (толькі не вядома, па ўласнай волі ці па заданні партыі) паказаў сябе першы рэдактар газеты латыш Вільгельм Кнорын (Кнорыньш; 1890–1938). Скончыў настаўніцкую семінарыю, працаваў у вясковай, а затым у Рыжскай гандлёвай школе, быў лектарам розных культурна-асветніцкіх устаноў, створаных бальшавікамі. І гэты зусім яшчэ малады (не было і 30 гадоў) чалавек дазваляў сабе на старонках "Звезды" выкладаць лухту пра народ, пра які ён нічога не ведаў: *"...белорусы не являются нацией... те этнографические особенности, которые их отделяют от остальных русских, должны быть изжиты..."* Дурнота! Але ж і сёння не перавяліся тыя (прычым і ў самых высокіх эшалонах улады), хто падзяляе бязглузды кнорынскі погляд на беларусаў, атаясамліваючы іх з рускімі, грэбуе беларускай мовай, лічачы рускую больш дасканалай.

Дазволю сабе заўважыць: калі ў 1920-я гады ў БССР пачалі на дзяржаўным узроўні праводзіць палітыку беларусізацыі, В.Кнорын, з'яўляючыся першым сакратаром ЦК КП(б)Б, актыўна спрыяў ёй, а ў часы масавых сталінскіх рэпрэсій стаў іх ахвярай не ў малой ступені праз актыўнае спрыянне беларускаму нацыянальна-адраджэнскаму руху. Таму схіляюся да думкі, што ў 1918 годзе В.Кнорын выказаў такі дыскрымінацыйны погляд на беларусаў не рухомы сваімі перакананнямі, а па загадзе бальшавіцкай партыі.

Пра многае гаворыць назва газеты. Зразумела, што бальшавікі не маглі выкарыстаць штосьці з мясцовай лексікі. Назву ўзялі з неба – у прамым і пераносным сэнсе. Паколькі яны былі атэістамі і матэрыялістамі, у іхнім разуменні слова "звезда" было пазбаўлена рэлігійнага або абрадавага значэння і азначала тое, што беларусы называюць зоркай. Ніхто пра гэта не задумаўся ў 1925–1926 гадах, калі газету сталі выдаваць на беларускай мове: назву не пераклалі, а проста сталі пісаць паводле беларускай арфаграфіі: з "я" ў першым пераднаціскным складзе – "Звязда". У беларускамоўных слоўніках не было тады і няма сёння слоў "звезда" ці "звязда". Адзіныя, хто "ўладарыць" гэтым дзіўным мутантам, рэдакцыя газеты "Звязда", заснавальнікамі якой з'яўляюцца Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу, Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу, Савет міністраў Рэспублікі Беларусь.

***

Несумненна, Кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 года праклaмавала нямала чаго пазітыўнага для шматлікіх народаў, якія панеслі сур'ёзныя страты ў сваёй этнакультурнай самабытнасці з-за царскай русіфікатарскай палітыкі. Узяць хаця б адзін з першых дэкрэтаў Савецкай Расіі – Дэкларацыю правоў народаў Расіі (15 лістапада 1917 г.). У ёй абвяшчаліся роўнасць і суверэннасць народаў Расіі, іх права на свабоднае самавызначэнне аж да аддзялення і ўтварэння ўласнай самастойнай дзяржавы, адмена ўсіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаванняў, свабоднае развіццё нацыянальных меншасцяў і этнічных груп. Аднак усё гэта нікольві не тычылася беларусаў, бо іх бальшавікі не лічылі ні народам, ні нават нацыянальнай меншасцю ці этнічнай групай. Прычына: у беларусаў нібыта адсутнічае свая нацыянальная мова, яны карыстаюцца рускай, і таму гэта таксама рускі народ, а значыць, ніякага нацыянальнага прыгнёту з боку царызму не было.

Як хачацца, каб нашы сучасныя палітыкі зразумелі, што значыць беларуская мова не толькі для захавання этнакультурнай самабытнасці тытульнай нацыі, але і для забеспячэння сапраўднага дзяржаўнага суверэнітэту!

Як бачым, перамога Кастрычніцкай рэвалюцыі ў Расіі не дала ніякай магчымасці для развязвання архіскладанага беларускага нацыянальнага пытання. Наадварот, яно яшчэ больш абвастрылася. Быць ці не быць беларусам самабытнай нацыяй з правам на ўласную дзяржаўнасць – вось што найбольш хвалявала тады сапраўдных патрыётаў Бацькаўшчыны. Дзякуй богу, тады іх не бракавала, як гэта адбываецца зараз.

Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі і прыняцця Дэкларацыі правоў народаў Расіі нашы навукоўцы супольна з нацыянальна арыентаванымі грамадска-палітычнымі дзеячамі актыўна заняліся лінгвістычнай працай, бо мелі на мэце давесці, што ў беларусаў ёсць свая, адрозная ад рускай мова і яны маюць усе правы называцца самабытным народам, развівацца на ўласнай культурна-моўнай аснове, мець сваю дзяржаўнасць, чаго так не хацела бальшавіцкая Масква.

Тая лінгвістычная праца доўжылася да 31 снежня 1918 года. Нарэшце на 47-ы дзень пасля абвяшчэння Дэкларацыі Масква пагадзілася, што беларуская мова арыгінальная, зусім не руская, таму і беларусы заслугоўваюць таго, каб называцца народам, маюць права на той ці іншы фармат уласнай дзяржаўнасці. І гэтым мы абавязаны не перавароту, які адбыўся 7 лістапада, а тым, хто пераканаўча, прафесійна паказаў, што сабою ўяўляе беларуская мова.

Тут не было роўных ураджэнцу вёскі Лаша Гарадзенскага павета, сыну псаломшчыка Яўхіму Карскаму (1861–1931), тады ўжо добра вядомаму ў Расіі і за яе межамі філолагу і этнографу. У 1905–1917 гадах ён з'яўляўся рэдактарам "Русского филологического вестника", што паспрыяла ўстанаўленню цесных кантактаў з рускімі навукоўцамі гэтай сферы, у тым ліку з прафесарам Пецярбургскага ўніверсітэта Аляксеем Шахматавым (адным з нямногіх рускіх філолагаў, хто лічыў беларускую мову самастойнай, арыгінальнай). Таму, калі заходзіць гаворка пра айцоў Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі, дык побач са Зміцерам Жылуновічам і Аляксандрам Чарвяковым я раіў бы называць слыннага філолага Яўхіма Карскага, бо толькі дзякуючы навуковаму абгрунтаванню ім існавання ў прыродзе беларускай мовы Масква прызнала беларусаў за нацыю і дала ім права на стварэнне ўласнай дзяржавы.

Ёсць сэнс да гэтай тройкі выдатных постацяў далучыць і рэдактара грамадска-палітычнай і літаратурнай беларускай газеты "Вольная Беларусь" (чэрвень 1917 – лістапад 1918) Язэпа Лёсіка. Праз яго руплівасць гэты перыядычны орган сваімі публікацыямі пераканаўча даказаў, што па-беларуску можна ствараць годныя творы ў любых жанрах літаратуры, выказваць самыя складаныя думкі, не пазычаючы дзеля гэтага словы з польскай, рускай, украінскай моў.

***

Падзеі 7 лістапада 1917 года, безумоўна, зрабілі моцны ўплыў на жыццё народаў, што насялялі неабдымную Расійскую імперыю, у тым ліку на беларусаў, але далёка не станоўчы: разбурэнне эканомікі, камітэты беднаты, харчовая развёрстка, індустрыялізацыя, калектывізацыя, рэпрэсіі... Няма за што хваліць і пасляваенны перыяд савецкай гісторыі... Па сутнасці, да гэтага часу на постсавецкай прасторы імкнуцца стварыць тую эканамічную сістэму, якая была разбурана Кастрычніцкай рэвалюцыяй. Таму ніводная з колішніх рэспублік СССР, акрамя Беларусі, не святкуе яе гадавіну. У Расійскай Федэрацыі з 1996 года 7 лістапада адзначалася як дзяржаўнае свята, але не Дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі, а Дзень згоды і прымірэння. А ў 2004-м яго і ўвогуле скасавалі і сталі адзначаць 4 лістапада Дзень народнага адзінства.

А вось калі гаварыць пра дзень, сапраўды варты адзначэння ў Рэспубліцы Беларусь, дык лічу, што наша палітычнае кіраўніцтва робіць недаравальную памылку, упарта ігнаруючы, нават адпрэчваючы 25 сакавіка, дзень абвяшчэння нашай першай незалежнай дзяржавы Беларускай Народнай Рэспублікі як вялікае нацыянальнае свята.

**Леанід ЛЫЧ, доктар гістарычных навук, прафесар.**

